


# Веткі й Паведамленьні

**інфармацыйны бюлетэнь Згуртаваньня "ПАГОНЯ"**

**Viestki j Paviedamleńni**

Электронны адрас: *viestki@mail.com*

*P. O. Box 3225, Farmingdale, NY 11735*

**№ 7(677)**
**Ліпень 2022 г.**


# Купальле ў штаце Нью-Ёрк

У штаце Нью-Ёрк, у запаведніку Ўард-Паўнд-Рыдж прайшло ў ноч з 25 на 26 чэрвеня сьвяткаваньне беларускага традыцыйнага абраду Купальля.

Матывы й элемэнты купальскіх абрадаў ужываліся ў разнастайных культурных праграмах ды імпрэзах беларускай эміграцыі ў ЗША, бадай, ад самых ранейшых часоў, але традыцыя адмысловага сьвяткаваньня Купальля зьвязаная з найноўшай хваляй эміграцыі зь Беларусі. У рэгіёне Нью-Ёрку і Нью-Джэрзі гэтая традыцыя бярэ пачатак ад 1999 году, калі беларусы сабраліся на гэты старадаўні нацыянальны абрад ў беларускім рэсорце Белэр-Менск і супольна яго правялі. Затым з дапамогаю сп-ва Пятра і Алены Рыжых была знойдзеная пляцоўка ў цудоўным запаведніку Ўард-Паўнд-Рыдж на поўнач ад гораду. Тут і праводзіцца ўжо шмат год нью-ёрскае Купальле, зь перапынкам на час пандэміі карона-вірусу ў 2020 годзе. Ужо некалькі год асноўную ролю ў падрыхтоўцы Купальля бярэ на сябе суполка "Беларусы ЗША-Разам лягчэй" начале з Ганнай Шарко і Алесем Мазгавым. Надвор'е таксама паспрыяла – перад тым амаль тыдзень ліў дождж, і акурат на Купальле надвор'е выдалася добрым, сонечным.

Гэтым разам была распрацаваная вялікая праграма імпрэзы, усе жадаючыя ўзяць удзел у актыўным адпачынку былі падзеленыя на каманды "Бусьляня" і "Крыжачок". Яны бралі ўдзел у квізе-вікторыне і ў спартовай частцы – актыўных гульнях тут жа на вялікай паляне. У квізе перамог "Крыжачок" (капітан Аляксандар Крыж), а ў спартовай частцы – "Бусьляня" (капітан Павал Шылін), а ў агульным заліку вынікам стала нічыя.

Таксама ўдзельнікі сьвяткаваньня бралі ўдзел у спартовых спаборніцтвах па валейболе і гульнях, у пошуках скарбаў і папараць-кветкі. Сярод іншых цікавых заняткаў былі мастар-клясы па ёзе і па пляценьні вянкоў.

У міжчасе можна было падсілкавацца блінамі й дранікамі. Мужчыны і хлопцы нарыхтавалі дроў для вогнішча. Перад пачаткам сьвяточных дзеяў прысутныя парамі праходзілі праз браму, ачышчаючыся вадою і заручаючыся падтрымкаю містычных сілаў. Затым грамада абрала князем-Купалішам Мікіту Сіліча і Купалінкай Марыну Арабей.

Як сонца села, пачаўся абрад, які вялі сп-ня Алена Рыжая і сп. Сяржук Сай. Алена коратка распавяла пра сам абрад і ягоны сымбалізм. Пад купальскія сьпевы Купаліш з Купалінкай падпалілі вогнішча, жордку з колам наверсе, што маюць магічнае значаньне і тлумачацца традыцыйнай міталёгіяй як спалучэньне мужчынскага і жаночага пачаткаў. Прысутныя сталі хадзіць карагодамі і сьпяваць традыцыйныя сьпевы, іх запявала сп-ня Лена Рыжая, і яе падхоплівалі прысутныя. Прагучэлі песьні "Купалінка", "Ой рана на Йвана", "Гарэла сасна, палала".

*заканчэньне на бачыне 2*

**Маргарыта Ляўчук** (сапрана) і **Ільля Сільчукоў** (барытон) – беларускія вакалісты, чые віртуознасьць і дасягненьні прынесьлі ім міжнароднае прызнаньне ў сьвеце опэрнага мастацтва. Ляўчук і Сільчукоў добра вядомыя ў сваёй краіне тым, што ўзмацняюць галасы беларусаў ды аказваюць супраціў дыктатарскаму рэжыму Лукашэнкі.

Гэтым летам Маргарыта Ляўчук і Ільля Сільчукоў прыедуць у Нью-Ёрк з адмысловай праграмай беларускай клясічнай ды фальклорнай музыкі; падчас канцэрту прагучаць таксама творы ўкраінскай і сусьветнай клясыкі. На акампаніменце – вядомая беларуская піяністка Тацьцяна Лойша. На разагрэве – **Kozak Family Trio**.

**BELARUS MUST BE FREE** адбудзецца ў нядзелю, **10 ліпеня**, а **16:00** ва Ўкраінскім нацыянальным доме па адрасу: *140 2nd Ave., New York, NY 10003*.

Квіткі даступныя па спасылцы ***https://www.eventbrite.com/.../belarus-must-be-free...***

Прыбытак будзе перададзены абаронцам Украіны ды сем'ям, пацярпелым ад вайны.

Арганізатары канцэрту: ***Беларуская Фундацыя Крачэўскага***.

CONCERT
BELARUSIAN CULTURE WEEK 2022
BELARUS
MUST BE FREE

# Купальле ў Нью-Ёрку

*заканчэньне з бачыны 2*

Калі завалілася жордка-вось з колам, па традыцыі прадказвалася, што тая асоба ў карагодзе, у кірунку якой павалілася жэрдка, у бягучым годзе пабярэцца шлюбам. Затым пачаліся купальскі гульні, сярод іх “Падушачка”, “Цяцерка” і “Баяры”.

Падчас гульняў падабраліся “нячысьцікі” й скралі Купалінку, і дружына з князем-Купалішам начале кінулася на пошукі. Гэтым разам пошукі зацягнуліся, але нарэшце Купалінку ўратавалі, і затым пачаліся скокі праз вогнішча. Агонь, па ўяўленьнях нашых продкаў, мае ачышчальную сілу, а вогнішча мае злучальную сілу як атрыбут котлішча, сямейнага дабрабыту. Затым моладзь выправілася шукаць Папараць-кветку. Як вядома з фальклёру, той хто знойдзе яе, стане шчасьлівы, зможа разумець мову прыроды.



Потым удзельнікі сьвята маглі падмацавацца стравамі й выпіць крупніку – традыцыйнага напою, у выраб якога ўлучаныя 29 лекавых траваў. Напрыканцы ўдзельнікі паехалі купацца ў рацэ непадалёк пры сьвятле зораў.

Пасьля традыцыйнага абраду адбыўся канцэрт, дзе выступілі сп. Сржук Сай і шэраг іншых таленавітых сьпевакоў – мікрафон быў адкрыты, і кожны мог выпрабаваць свае выканальніцкія здольнасьці. Сьпевы былі з энтузіязмам сустрэтыя моладзьдзю. Затым яшчэ сьпевы працягнуліся ў адной з кампаніяў позна пасьля паўночы.

Купальскае неба было поўнае зіхоткіх зорак, што паволі паварочваліся зь цягам часу. Пасярод былі відаць Вялікі Воз (Мядзьведзіха) і Валасы Веранікі, а таксам плянэта Марс. Наагул на гэтае сонцастаяньне прыпадае парад плянэтаў, дзе пяць плянэтаў пашыхтуюцца ў шэраг, іх нават можна назіраць, хоць вельмі нізка над небакраем, выкарыстоўваючы астранамічныя эпы Sky або Tonight Star Walk2.

Купальская ночка праляцела хутка, бо адна з самых кароткіх ў годзе, і назаўтра ўдзельнікі Купальля маглі працягнуць цікавыя заняткі, насалоджваліся прыемным надвор’ем і празрыстым паветрам чэрвеня. Жадаючыя маглі застацца да вечара.

Сёлетняе Купальле спадабалася ўдзельнікам, усе адзначалі і добрую арганізацыю сьвята, і цікавую праграму. Шмат каму, а таксама й аўтару гэтых радкоў, ад’яжджаць з тых прыгожых мясьцінаў не хацелася.

Падзяка за добра праведзены грамадою час належыцца арганізатарам Ганьне Шарко і Аляксандру Мазгавому, а таксама Алене і Пятру Рыжым, Сяржуку Саю, Вадзіму Крывавязу, Міхасю Шаўчэнку, Вячаславу Аднавораву. Бліны й налеснікі прыгатавалі беларусачкі Алена і Вольга Талатынік.

Спадзяемся, што падтрыманьне прыгожай нацыянальнай традыцыі будзе далей мацнець, і пра гэта ўжо сьведчаць паведамленьні пра сьвяткаваньне Купальля беларусамі ва ўсё новых і новых мясьцінах у Амэрыцы.

***Віталь ЗАЙКА***



# Шлях да існаваньня

Пасьля расейскай вайсковай акупацыі Беларусі тэзіс аб вызваленьні ад фашыстоўскага антыбеларускага рэжыму Лукашэнкі (як мэта непасрэднага дзеяньня) – траціць сэнс, бо ліквідаваць рэжым сатрапа можна толькі вызваліўшыся з-пад расейскай акупацыі.

Вызваленьне Беларусі цяпер напрасткі зьвязана з перамогай Украіны ў вайне з Расеяй. Беларусам трэба ўсімі сіламі дапамагаць украінцам і найперш – непасрэдным удзелам у ваенных дзеяньнях на баку Ўкраіны.

Памятайма, што вайна Ўкраіны супраць агрэсіі фашысцкай Расеі – гэта ёсьць, фактычна, і нашая беларуская вайна. Толькі паканаўшы расейскага мордара ва Ўкраіне, можна ліквідаваць антыбеларускі фашысцкі рэжым Лукашэнкі ў Беларусі. Толькі перамогшы рашызм ў вайне і выгнаўшы расейскіх захопнікаў з Украіны, магчымая свабода і незалежнасьць Украіны і Беларусі.

Не забывайма, што ў сытуацыі, якая існуе, ваенная перамога над фашысцкай Расеяй – гэта ёсьць адзіны шлях да нацыянальнага існаваньня і свабоды ўкраінцаў і беларусаў. Усе нашыя беларускія дзеяньні мусяць быць накіраваныя на перамогу Ўкраіны над расейскім фашызмам.

*16 чэрвень 2022 г.*

***Зянон ПАЗЬНЯК***

**P. S.** Цяпер ва Ўкраіне пэўныя сілы вядуць прапаганду і працу супраць беларусаў. Мэта гэтых сілаў схаваная і прарасейская – пад выглядам украінскага патрыятызму зрабіць усё магчымае, каб стварыць для Ўкраіны ворага ў вобразе Беларусі і настроіць беларусаў супраць украінцаў.

Гэтая агентурная дзейнасьць (падмацаваная выступамі ня вельмі разумных людзей) носіць пастаянны характар, але (зразумела) не адлюстроўвае афіцыйнай пазыцыі Ўкраіны і шырока не распаўсюджана. Аднак існуе.

Беларусам, ведаючы сутнасьць справы, трэба спакойна і з разуменьнем адносіцца да антыбеларускіх выбертаў. Каб лепш ўсьвядоміць стан рэчаў, раю глянуць на тое, што вытварае акупацыйная агентура і прапаганда ў Беларусі, бэсьцячы ўсё беларускае і ўкраінцаў. Нельга даваць сябе ашукаць, ведаючы адкуль тое ўсё бярэцца.

**P. P. S.** На жаль ні ў ЗША, ні ва Ўкраіне (ні, тым больш, у старой Эўропе) нічога ня робяць, каб разлучыць саюз двух “сіямскіх бандытаў”. (Вайна ж бо.) Але тут якраз наадварот (асабліва з ганебнымі санкцыямі супраць Беларусі.) Усё падводзіцца быццам да таго, каб саюз бандытаў скамянеў, і каб Лукашэнка ад безвыходнасьці пагнаў беларускае войска на Ўкраіну. Цяжка паверыць, што такое робіцца толькі ад неразуменьня становішча.

# Зацемкі пра Беларусь і Эўропу

Яшчэ адзін характэрны аспэкт пратэстаў 2020-га году. Беларусы, нягледзячы на русіфікацыю і варварскі ўплыў Расеі, паказалі ў выступах сваю звыклую высокую культуру, аптымізм і інтэлігентнасьць. Гэта былі дэманстрацыі сьветлых людзей. Выходзілі сотні тысячаў, але не было ўчынена ніякой матэрыяльнай шкоды гораду з боку дэманстрантаў, тым больш ніякіх зьнішчэньняў, ніхто нідзе не пабіў шыбы (наадварот шыбы білі міліцыя і ОМОН). Дабраахвотныя памочнікі хадзілі з паліэтыленавымі мяшкамі сярод дэманстрантаў і забіралі сьмецьце. Горад быў чысты. Ніхто не станавіўся на лавачку ў абутку, бо так прывучаныя зь дзяцінства. Іграла музыка і чуліся сьпевы.

І вось у гэтай прыгожай маніфэстацыі рэжымная цемра на сьмерць пазабівала беларусаў. Навука на прышласьць для цэлага пакаленьня. Гэта, як “Крывавая нядзеля” для Пецярбургу ў 1905 годзе. (І правакатары, як там, але ўжо ў Сеціве сядзелі).

Зразумела, тут ня той мэтад, якім можна зьнесьці фашысцкі антынародны бандыцкі рэжым. Але зьнешняе ўражаньне ад маніфэстацыяў было ўзьнёслае, духоўна кансалідавала і ўздымала людзей, дзе нацыянальны сьцяг быў сымбалем ідэалу свабоды. У гэтым якраз станоўчы бок пратэстаў 2020 году – нацыянальная кансалідацыя грамадзтва.

У Эўропе, і найбольш у Польшчы, я чуў воклічы захапленьня прыгажосьцю і паводзінамі нашых людзей. Беларускія пратэсты – гэта было відовішча – гэта лекцыя культуры для ўсёй Эўропы. (Бачылі б вы, хто ня бачыў, сьвінушнік пасьля дэманстрацыі, дзе-небудзь у Парыжы ці Брусэлі ці біцьцё шкла ў Амэрыцы).

Тым часам паказальна-характэрная і дыямэтральна супроцьлеглая рэакцыя на культуру беларускіх дэманстрацыяў чулася ў краінах былога СССР (у краінах “саўка”), асабліва ў Расеі і Ўкраіне (дзе саўкоў шмат).

Рэакцыя тыпова эгалітарная – кпіны, злосьць, яхідзтва, іранічныя камэнтары. Аабліва саўковых абуралі сэнсоўныя сацыяльныя паводзіны і чыстаплотнасьць беларусаў, хаджэньне на зялёны сьветлафор (а не на чырвоны, як ў Маскве) і здыманьне абутку, каб стаць на лавачку, і інш. Некатопыя кацапы, магчыма, бачылі такое ўпершыню, эгалітарная злосьць іх была невымерная (“ишь, культурные-та!”). І па сёньня маскальня і ўсялякія нявзоровы ня могуць не зьяхідніцаць на гэтую тэму, так яна паніжае і круціць іхнюю варварскую прыроду.

Дарэчы, злосьць і пагарда вельмі характэрная рэакцыя расейцаў на ўсё вышэйшае і культурнае ў эўрапейскіх народаў. Тое, між іншым, добра апісана расейскім пісьменьнікам Аляксандрам Купрыным у адным зь ягоных апавяданьняў.

Але ўсё гэта дробязі. Якія людзі – такая і культура. І вось цяпер пра галоўнае, што невымерна зьдзівіла ўжо беларусаў. Пратэсты скончыліся разгромам, забойствамі, арыштамі, турмой і катаваньнямі сьветлых беларускіх людзей. Рэпрэсіі і фашысцкія пагромы Беларускага народу працягваюцца па сёньняшні дзень.

Тым часам 17-га студзеня 2022 году Расея ўвяла войскі і акупавала Беларусь. 24-га лютага Масква напала на Ўкраіну з тэрыторыі акупаванай Беларусі. Пуцінске войска пачынае страляць ракетамі зь Беларусі па Ўкраіне.

Што робіць Эўропа, якая толькі што захаплялася беларусамі і асуджала антычалавечыя рэпрэсіі рэжыму Лукашэнкі супраць народу?

Быццам бы караючы Лукашэнку, Эўразьвяз ўводзіць эканамічныя санкцыі супраць Беларусі і адначасна пачынае перасьлед і дыскрымінацыю беларусаў па ўсім сьвеце. Нянавісьць раптам абвалілася на ўвесь народ, на тых, каго нішчыць і катуе ў турмах фашысцкі рэжым Лукашэнкі, які ўпусьціў расейскія акупацыйныя войскі ў Беларусь і разам з Пуціным выступае суакупантам Белару-

***заканчэньне на бачыне 4***

# Марш Паняволеных Народаў

64th ANNUAL CAPTIVE NATIONS WEEK JULY 17-24, 2022




У нядзелю, **17 ліпеня 2022 году**, адбудзецца Марш Паняволеных Народаў, што традыцыйна арганізуецца ў ліпені Камітэтам Паняволеных Народаў у рамках афіцыйна абвешчанага яшчэ ў 1959 годзе Тыдня Паняволеных Народаў – імпрэзы, якая прыцягвае ўвагу амэрыканскага грамадзтва да стану народаў, што паняволеныя камуністычнымі, а таксама пост-камуністычнымі ды кожнымі іншымі тыраніямі й дыктатурамі. Сёлета Тыдзень Паняволеных Народаў пройдзе ад 17 да 24 ліпеня.

Збор у нядзелю, **17 ліпеня а 9-й гадзіне раніцы** ля **гатэля "Plaza"** *(Pultzer Fountain)* на **59-й вуліцы** і **5-й авэню**. Адтуль удзельнікі рушаць да **Катэдры сьв. Патрыка**, дзе адбудзецца імша за Паняволеныя Народы, а потым пройдуць Маршам да **59-й вуліцы** і **Калямбус Сыркл** *(Merchant's Gate/ Main Monument)*, дзе адбудзецца ўрачыстае адкрыцьцё Тыдня.

Ад самага пачатку ў імпрэзах Тыдня бяруць удзел прадстаўнікі беларускай грамады Амэрыкі. Пасьля 1989-1991 гадоў большасьць этнічных арганізацыяў сябраў Камітэту Паняволеных Народаў, і ў тым ліку ўкраінцы, адыйшла ад актыўнага ўдзелу, мяркуючы, што свабода ўжо здабытая, і ёй нішто не пагражае.

Як бачым, гэтая "рэляксаваная" пазыцыя памылковая, і па дзьвух прычынах:

1. Свабода – гэта "штодзённы плебісцыт" (ніхто і нішто не згарантуе яе раз і назаўсёды).

2. Абавязак кожнага вызваленага народу – дапамагчы тым, хто застаецца паняволенымі. У кожным разе, запрашайце на гэтую імпрэзу вашых украінскіх, крымскататарскіх, расейскіх (не ачмураных пуцінскай прапагандай), зімбабвейскіх, віетнамскіх, кітайскіх, тыбецкіх, кубінскіх сяброў. Пашырайце інфармацыю, паведамляйце сябрам і знаёмым!

## Зацемкі пра Беларусь і Эўропу

*заканчэньне з бачыны 3*

сі. Калі вобразна – за дзеяньні канцлягера Эўропа карае вязьняў канцлягера.

Беларусам не даюць уязныя візы, не залічваюць ва ўнівэрсытэты, не адкрываюць рахункі ў банках, не даюць працы і г. д. Дыскрымінацыя тлумачыцца проста. Эўрапалітыкі выкарыстоўваюць момант акупацыі краіны і супрацоўніцтва Лукашэнкі з Пуціным дзеля таго, каб нізка абвінаваціць у злачыннай палітыцы Лукашэнкі ўвесь Беларускі народ і зьнішчыць Беларусь дазваньня.

Зацікаўленая ў гэтым найперш Нямеччына (што супрацоўнічала і будзе супрацоўнічаць з Масквой) і, адпаведна, яе саюзьнікі па Эўразьвязу (акрамя Польшчы). Найбольш шкодна для Беларусі падтрымлівае такую палітыку Летува.

Дарэчы, нагадаю. У 1990-1991 гадах уся Эўропа (ізноў жа, акрамя Польшчы) была супраць незалежнасьці Беларусі і Ўкраіны, падтрымлівала Гарбачова і Савецкі Саюз. Калі хто з даверлівых беларусаў яшчэ думае, што за словамі эўрапейскіх прагматыкаў і палітактораў існуе нейкая прыстойная мараль, – то цяпер больш так думаць ня варта. Старая Эўропа жыве дабрабытам, не ідэаламі.

Вось і атрымліваецца, што ў гэтых абставінах мы нават па факту мусім падтрымліваць Польшчу і Ўкраіну, у сапраўднасьці гэта тыя краіны, якія былі зь Беларусяй і між сабой гістарычна павязаныя і бараніліся ад навалы з усходу і захаду.

Старая Эўропа заўсёды заставалася эгаістычнай, матэрыяльнай, мэркантыльнай, рацыянальнай, халоднай і пры гэтым, вядома ж – культурнай. Але па вялікаму кошту – бяздухоўнай. У апошнія стагодзьдзі яшчэ і лявацкай.

Выгадна супрацоўнічаючы з рэсурснай Расеяй, старая Заходняя Эўропа добра трымаецца на плыву. У гэтым геапалітычным "супрацоўніцтве" і падзеле Эўропы, аднак, – крыніца сусьветных войнаў і аншлюсаў тэрыторый. У гэтым найбольшая перашкода для незалежнага салідарнага існаваньня Беларусі, Украіны і Польшчы.

*12. 06. 2022 г.*

**Зянон ПАЗЬНЯК**

**Уплаты ў Згуртаваньне**
**Складкі й ахвяраваньні:**

**К. Пляўга .................70**

**Шчыры дзякуй!**

**Уплаты ў Згуртаваньне "Пагоня" шліце на адрас:**
***P. O. Box 572***
***New York, NY 10113***
**Чэкі выпісвайце на імя скарбніка Згуртаваньня "Пагоня"** ***Viktar Yedzinovich.***

## Абвестка

Сходы Згуртаваньня "Пагоня", якія звычайна адбываліся ў другую суботу кожнага месяца, часова (да адмены ўладамі г. Нью-Ёрку забароны на правядзеньне масавых мерапрыемстваў) праходзіць ня будуць.

-------------------

*Аб імпрэзах, ладжаных "Пагоняй", можна даведацца наведаўшы старонку арганізацыі ў Фэйсбуку:* ***https://www.facebook.com/groups/134811029970802/***

**Ахвяравалі на выданьне бюлетэня *Весткі й Паведамленьні*:**

**К. Пляўга .................30**

**Усім шчыры дзякуй!**

*Падпісацца на бюлетэнь можна даслаўшы ў рэдакцыю аплату гадавой падпіскі (**$30**) на адрас:*
***Marat Klakotski***
***P. O. Box 3225***
***Farmingdale, NY 11735***
*Чэкі выпісвайце на імя скарбніка "Пагоні"* ***Viktar Yedzinovich.***